







**АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА** **РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ**

# Голас Радзімы

14 чэрвеня 2000 года
Цана 80 рублёў

№ 24 (2686)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 6 красавіка 1955 года

**АКТУАЛЬНА**

## ВЫБАРЧАЕ ЗАКАНАДАЎСТВА МОЖА БЫЦЬ ЗМЕНЕНА ДА КАНЦА ЧЭРВЕНЯ

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

Магчыма, ужо на бягучай сесіі Нацыянальнага сходу будуць унесены пэўныя змены ў Выбарчы кодэкс краіны, па якому восенню гэтага года ў Беларусі павінны прайсці выбары ў нацыянальны парламент. Папраўкі і дапаўненні ў заканадаўства выпрацавалі члены экспертнай групы, якая дзейнічала ў межах грамадска-палітычнага дыялога. На працягу трох апошніх месяцаў яго спрабуюць арганізаваць беларускія ўлады разам з прадстаўнікамі палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў краіны.

Днямі Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з лідэрамі арганізацый, якія бяруць удзел у гэтым мерапрыемстве. Напярэдадні з'явілісь чуткі, што прапановы аб змене выбарчага заканадаўства — гэта ці не адзіная мэта дыялога, пасля выканання якой ён будзе спынены. Аднак у межах дыялога было створана шэсць экспертных груп, якія займаліся іншымі, актуальнымі для беларускага грамадства праблемамі. Група па змене выбарчага заканадаўства была толькі адной з іх. Таму не дзіўна, што перспектыва спынення дыялога выклікала моцную занепакоенасць сярод тых, хто згадзіўся на размову з уладамі. Дарэчы, прынцыпова ў дыялогу не ўдзельнічаюць восем апазіцыйных палітычных партый краіны. Такім чынам, сустрэча з Прэзідэнтам павінна была не толькі вызначыць лёс папраўак у выбарчае заканадаўства, але і адказаць на пытанне аб перспектывах гучнага мерапрыемства пад назвай "дыялог".

А. Лукашэнка вёў размову з удзельнікамі дыялога больш за тры гадзіны замест паўтары запланаваных. Ён выказаўся па многіх палітычных праблемах, свой пункт гледжання здолелі прадставіць на сустрэчы і больш за 10 прадстаўнікоў палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў, а таксама кіраўнік Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ ў Мінску, пасол Ханс-Георг Вік.

Паводле слоў А. Лукашэнкі, дыялог будзе працягвацца, але з выпрацоўкай агульнай пазіцыі арганізацый-удзельніц адносна выбарчага заканадаўства закончыўся вельмі важны этап яго. Многія з тых папраўак, якія былі прапанаваны экспертнай групай, паводле выказванняў кіраўніка дзяржавы, маюць права на існаванне і, верагодна, будуць ухвалены парламентам. Аднак А. Лукашэнка не паведаміў дакладна, якія прапановы асабіста ён падтрымлівае. Ён толькі даў зразумець прысутным, што будуць прыняты не ўсе папраўкі, і спаслаўся на тое, што канкрэтнае рашэнне будзе прымаць парламент. Усяго ж экспертная група прапанавала 16 дапаўненняў і змяненняў у Выбарчы кодэкс. Дарэчы, часу на роздум палітыкам засталося вельмі мала, бо ў сярэдзіне ліпеня кіраўнік дзяржавы абавязаны прызначыць дату парламенцкіх выбараў. Паводле айчыннага заканадаўства, яны павінны адбыцца не пазней 27 кастрычніка 2000 года.

Афіцыйнай пазіцыяй дзеючых уладаў адносна прапанаваных папраўак можна лічыць выступленне кіраўніка Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенню рэферэндумаў Лідзіі Ярмошынай, якое яна зрабіла літаральна праз некалькі дзён пасля сустрэчы лідэраў грамадскіх арганізацый з Прэзідэнтам. Такім чынам, па словах Л. Ярмошынай, Цэнтрвыбаркам цалкам або часткова падтрымлівае толькі 11 з 16 прапанаваных грамадскімі экспертамі змяненняў і дапаўненняў. Яны, па характарыстыцы кіраўніка ЦВК, маюць кампрамісны характар і могуць паслужыць удасканаленню Выбарчага кодэкса.

Л. Ярмошына лічыць канструктыўнай прапанову аб фарміраванні выбарчых камісій усіх узроўняў на трэць з прадстаўнікоў палітычных партый. Яна станоўча выказалася і наконт прапановы вызначыць у Выбарчым кодэксе паняцце "назіральнік" і рэгламентаваць іх правы і абавязкі. Дапушчальнай кіраўнік ЦВК лічыць прапанову аб спрашчэнні парадку збору подпісаў за кандыдатаў і больш мэтанакіраванага размеркавання сродкаў на перадвыбарную агітацыю, у прыватнасці, на друкаванне плакатаў кандыдатаў.

Адначасова Л. Ярмошына выказала сумненні адносна магчымасці прыняцця прапаноў аб тым, каб кандыдаты прадстаўлялі дэкларацыю аб даходах, каб была скарочана колькасць перанасных скрынак для галасавання, каб была ліквідавана магчымасць датэрміновага галасавання. Яна выступае супраць таго, каб было прадастаўлена права вылучаць кандыдатаў толькі тым працоўным калектывам, дзе налічваецца больш за 1 000 чалавек (паводле сённяшняга варыянта кодэкса, такое права маюць калектывы з колькасцю 300 працаўнікоў). Паводле яе слоў, непрымальнай з'яўляецца прапанова аб змяншэнні неабходнай для прызнання, што выбары адбыліся, колькасці выбаршчыкаў у першым туры галасавання да 25 працэнтаў.

Заканчэнне на 2-й стар.

**ЛЕТНІ ДОЖДЖ У МІНСКУ**



Фота Мікалая ПЯТРОВА.

**І РАДАСЦЬ, І ЗАСМУЧЭННІ АДНАЧАСОВА ПЕРАЖЫЛІ ЖЫХАРЫ МАГІЛЁВА.** У другой палове дня горад накрыла чорная хмара, ад цемры якой людзям прыйшлося ўключыць у бытавых і службовых памяшканнях электрасвятло. Літаральна праз некалькі хвілін з неба пайшоў моцны лівень, які суправаджаўся грукатам грому і градам.

Гараджане, змучаныя спякотай і засухай, спачатку ўзрадаваліся вадзяному патоку. Асабліва тыя, у каго ў прыгарадзе на дачных участках выгараў ураджай. Але, на жаль, радасць аказалася дачаснай.

Лівень не абмежаваўся хвілінамі, а хвастаў сваімі буйнымі струменямі зямлю амаль гадзіну. За гэты час на гарадскіх магістралях стварыўся такі паток вады, што ў многіх месцах легкавы аўтатранспарт рухацца проста не мог: вада залівала салоны аўтамабіляў. Узніклі пробкі. Тых, хто раніцай, выходзячы з хаты, не закрыў балконныя дзверы і вокны, чакала яшчэ адна непрыемнасць: кватэры аказаліся затопленымі.

**ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ**

Вельмі прашу вас дапамагчы мне знайсці маіх родных у Канадзе.

Я, **Дудко** Людміла Міхайлаўна (дзявочае прозвішча Рутковская), шукаю сваіх родных у Канадзе. У горадзе Капусказінг, штат Антарыо, жывуць **Панасюк** Уладзімір Фёдаравіч, **Валанцін** Ганна Фёдараўна і Алена Фёдараўна (прозвішча не ведаю).

По адрасу:
46. Wellington St. N
Goderich, Ontaria
N/7A 2W8 Canada

раней пражывала (а можа і зараз жыве) мая стрыечная сястра Паша **Шоу**. (Яна дачка Ганны Валанцін). Але, на жаль, нашы пісьмы па гэтаму адрасу не даходзяць.

Вельмі прашу надрукаваць маё пісьмо, а родных — адгукнуцца.

**Мой адрас: Беларусь, Брэсцкая вобласць, г. Пружаны, вул. Свабоды, 89а, кв. 6. Дудко Л. М.**

**Мой хатні тэлефон: 7-10-87.**

**СПОРТ**




У Мінску ў парку імя Горкага прайшоў IV лёгкаатлетычны прабег, прысвечаны Міжнароднаму дню без тытуню. У ім удзельнічала больш за 100 чалавек.

НА ЗДЫМКУ: ветэран марафона 76-гадовы Анатоль ГОГАЛЕЎ з самай юнай удзельніцай прабегу пяцігадовай Насцяй.

**Фота Аляксея МАЦЮШКОВА.**

**КОРАТКА**

**У ГАНОВЕРЫ АДКРЫЛАСЯ СУСВЕТНАЯ ВЫСТАВА "ЭКСПА-2000".** Яе дэвіз: "Чалавек — прырода — тэхніка: узнікненне новага свету". Каля 200 краін і буйных міжнародных арганізацый на плошчы 170 гектараў прадэманструюць сваё бачанне вырашэння наспелых праблем чалавецтва.

Чакаецца, што выставу наведаюць больш як 40 мільёнаў чалавек, ці каля 263 тысяч штодзень. Сярод іх будуць асабліва ганаровыя госці — прыкладна 100 кіраўнікоў дзяржаў.

Наша краіна таксама ўдзельнічае ў выставе. 22 ліпеня адбудзецца Дзень Беларусі. У ім прыме ўдзел афіцыйная дэлегацыя краіны.

**ПРЭЗІДЭНТ РЭСПУБЛІКІ МАЛДОВА ПЁТР ЛУЧЫНСКІ ПРЫБУДЗЕ Ў МІНСК З АФІЦЫЙНЫМ ВІЗІТАМ.** Згодна з папярэднімі дамоўленасцямі, візіт адбудзецца 29—30 чэрвеня.

**АНТОНІЙ РАДЗІВІЛ ПАХАВАНЫ Ў НЯСВІЖЫ.** Антоній Радзівіл, адзін з нашчадкаў знакамітага беларускага роду, нарадзіўся ў 1936 годзе ў Польшчы. Скончыўшы два універсітэты, у тым ліку і Лонданскі, крайнай жыхарства абраў Вялікабрытанію. Там ён працаваў у кампаніі "Shell". Але Антоній Радзівіл любіў свой Нясвіж, цікавіўся сённяшнім днём горада, з павагай ставіўся да Беларусі, удзельнічаў у мерапрыемствах, якія ладзіла пасольства нашай краіны ў Вялікабрытаніі. Ён імкнуўся ў Нясвіж, прыняў рашэнне вярнуцца сюды пасля смерці. І вярнуўся... 8 чэрвеня ў Нясвіжы адбылася цырымонія пахавання праху Антонія Радзівіла.

Антоній Радзівіл не жыў у Нясвіжы. Магчыма, цяпер тут пасяліцца яго душа.

АКТУАЛЬНА

# ВЫБАРЧАЕ ЗАКАНАДАЎСТВА МОЖА БЫЦЬ ЗМЕНЕНА ДА КАНЦА ЧЭРВЕНЯ

Пачатак на 1-й стар.

Л. Ярмошына негатыўна ўспрыняла і прапанову, каб кожны назіральнік меў права атрымаць завераную копію пратакола аб выніках галасавання на тым ці іншым участку. Па словах кіраўніка ЦВК, з-за адсутнасці капіравальнай тэхнікі на ўчастках забяспечыць гэтую норму будзе фізічна і тэхнічна немагчыма. Але падобнае палажэнне з'яўляецца адным з самых прынцыповых патрабаванняў як беларускіх партый, так і міжнародных арганізацый, у прыватнасці, АБСЕ. Гэтае палажэнне з'яўляецца дзейснай перашкодай для магчымых падтасовак вынікаў галасавання.

Улады Беларусі тым часам разумеюць, што прыняццем толькі фармальных паправак у выбарчае заканадаўства ў сённяшнім выпадку не абысціся. Бо калі гэтая працэдура будзе фармалізаваная, то сам дыялог будзе асуджаны яго ўдзельнікамі, а міжнародныя арганізацыі могуць не даслаць у Беларусь сваіх назіральнікаў, пра што недвухсэнсоўна сказаў на сустрэчы з Прэзідэнтам спадар Вік. А гэта, у сваю чаргу, будзе азначаць непрызнанне выбараў у Беларусі міжнароднай супольнасцю і далейшую ізаляцыю парламента. Менавіта гэтага беларускі афіцыйны бок дапусціць аніяк не жадае. Таму сваё становішча ўлады добра разумеюць, і сёння яны аказаліся перад складаным выбарам.

ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ

# «КАШТАНЫ РЫБНЫЯ ПА-СІРОЦІНСКУ»

● **Сяргей ХАЛАДЗІЛІН**, БелТА.

Страву з такой інтрыгуючай назвай можна заказаць у парыжскім рэстаране П'ера Кардэна "Максім", ды зрэшты, не толькі там, а і ў многіх гарадах Еўропы і нават... у Бабруйску. Таму што менавіта там і жыве унікальны повар па прозвішчу Сіроцін, які мае 42 уласна прыдуманыя ім стравы. Афіцыйна, праўда, яны не запатэнтаваныя. Мадэст СІРОЦІН (на здымку) родам з прыгранічнай з Украінай вёскі Паддабранка, што на Гомельшчыне. Калі пачалася вайна, ён, пятнаццацігадовы хлапчук, каб узялі на фронт, прыбавіў сабе пяць гадоў, а калі спыталі ў ваенкамаце, што ўмее рабіць, адказаў — прыгатаваць паесці... Так і стаў поварам.



І не проста поварам, а маршальскім. Так што даводзілася гатаваць абеды для маршалаў Васілеўскага, Конева, Чарняхоўскага. Каштавалі кашу з яго катла чатыры разы Герой Савецкага Саюза Георгій Жукаў і пісьменнік Міхаіл Шолахаў.

І хаця спецыяльнасць у М. Сіроціна была не зусім ваенная, даводзілася яму ўдзельнічаць і ў баявых аперацыях, хадзіць у разведку, прабівацца з акружэння. Сведчанне таму — ордэн Чырвонай Зоркі і іншыя ўзнагароды. За мірную працу пасля вайны Мадэст Вольфавіч узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга і ордэнам Дружбы народаў.

У пасляваенны час працаваў Мадэст Сіроцін поварам у розных месцах, а апошнія гады — у рэстаране "Бабруйск" шэф-поварам. Гатуе там вядомую на ўвесь горад поліўку "па-сіроцінску", пакаштаваць якую прыязджаюць з усёй акругі.

ЗДАРЭННІ

**КАЛЯ МЯЖЫ З ЛІТВОЮ ЗДАРЫЛАСЯ БУЙНАЯ АВАРЫЯ.** Адзін чалавек загінуў і 21 атрымаў раненні рознай ступені цяжкасці ў выніку дарожна-транспартнага здарэння, якое адбылося на другім кіламетры аўтадарогі Полацк—мяжа Літвы.

Цягач "Вольва" з прычэпам, якім кіраваў грамадзянін Літвы, на вільготнай пасля дажджу дарозе выехаў на паласу сустрэчнага руху, дзе сутыкнуўся з аўтобусам "Ікарус-280", у якім знаходзілася 110 чалавек.

З шпіталізаваных пасажыраў адзін знаходзіцца ў крытычным стане ў рэанімацыйным аддзяленні полацкай гарадской бальніцы.

# АСНОЎНАЯ ПРАЦА ЭКАНОМІКІ—

## ТЭЗІСЫ ПРАГРАМЫ ДЗЕЙНАСЦІ

### АГРАПРАМЫСЛОВЫ КОМПЛЕКС

Задачы **аграрнага комплексу** на бліжэйшыя гады вызначаны ў дакладзе Прэзідэна краіны Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі **на рэспубліканскай нарадзе "Аб задачах рэспубліканскіх і мясцовых органаў кіравання па павышэнню эфектыўнасці работы аграпрамысловага комплексу"**, якое адбылося 7 красавіка 2000 года.

Для рэалізацыі гэтых задач сёлета намечана сабраць 5,7 мільёна тон збожжа, 7 мільёнаў тон бульбы, 50 тысяч тон ільновалакна, 1 450 тысяч тон цукровых буракоў, 951 тысячу тон мяса ў жывой вазе, 4 885 тысяч тон малака і 3,4 мільярда штук яек.

Для забеспячэння намечанай праграмы дзяржава толькі з рэспубліканскага бюджэту выдзеліць звыш 200 мільярдаў рублёў. Будуць выкарыстаны таксама сродкі мясцовых бюджэтаў. Таму мы маем права патрабаваць ад аграрнікаў выканання намечаных прагнозных паказчыкаў.

Прычым урад ставіць задачу такім чынам, каб аграрнікі не толькі забяспечвалі ўнутраны рынак, але і пастаўлялі сваю прадукцыю на экспарт для забеспячэння галіны валютай.

Урад і надалей будзе падтрымліваць сельскую гаспадарку, але выкарыстанне дзяржаўных сродкаў неабходна дакладна рэгламентаваць.

Хопіць проста "закопваць" грошы ў зямлю, механізм пагектарнага фінансавання вёскі сябе вычарпаў. Асноўная частка дзяржаўнай падтрымкі — да 70 працэнтаў — будзе з гэтага года накіроўвацца на датацыі да закупачных цэн на прадукцыю, якая прадаецца дзяржаве, і лізінг сельскагаспадарчай тэхнікі.

У працэсе **рэфармавання** сельгаспрадпрыемстваў ставіцца мэта стварыць многаўкладную эканоміку, пры гэтым несумненна перавага будзе аддавацца ўмацаванню буйнатаварнай вытворчасці. Ні для кога не сакрэт, што калі гаспадарка не атрымлівае 25 цэнтнераў збожжа з гектара і 2,5 тысячы кілаграмаў малака ад каровы, ніякае рэфармаванне ёй не дапаможа.

Урад будзе ўдзяляць вялікую ўвагу стварэнню ўмоў для развіцця **асабістых падсобных гаспадарак** грамадзян, пашырэння пераліку паслуг па выкананню сельскагаспадарчых работ, удасканалення арганізацыі закупак сельскагаспадарчай прадукцыі ў насельніцтва.

Актуальную праблему ўяўляе **тэхнічнае ўмацаванне** сельскагаспадарчай вытворчасці. Для пастаўкі тэхнікі вёсцы на падставе лізінга ў гэтым годзе з бюджэтнага фонду падтрымкі вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі і харчавання і аграрнай навукі выдзяляецца 60 мільярдаў рублёў.

**У жывёлагадоўлі** прадоўжыцца практыка падтрымкі жывёлагадоўчых комплексаў з мэтай вываду іх на праектныя ўзроўні прадукцыйнасці і затратнасці.

Належыць сканцэнтраваць намаганні на развіцці **перапрацоўчай прамысловасці**, укараненні перадавых тэхналогій вытворчасці, упакоўкі і захавання прадуктаў харчавання, пашырэнні іх асартыменту.

Шэраг праблем узнік па прычыне **анамалій надвор'я** ў выглядзе моцных замаразкаў і дэфіцыту вільгаці, якія ахапілі значныя рэгіёны рэспублікі. У асобных раёнах Палесся зарэгістраваны замаразкі на глебе 16 градусаў. Па гэтай прычыне, па папярэдняй інфармацыі, **пацярпела** прыкладна 150 тысяч гектараў пасеваў, каля 3 працэнтаў агульнай пасяўной плошчы, пераважна азімых збожжавых культур. На працягу трох тыдняў на тэрыторыі рэспублікі ўтрымліваецца сухое, практычна без ападкаў надвор'е, якое ўзмацняе наступствы замаразкаў.

У гэтых умовах урадам рэспублікі і органамі ўлады на месцах прымаюцца **экстранныя меры па перасеву**, каб не дапусціць недабору запланаванага ўзроўню вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі. Саветам Міністраў выдзелены пацярпелым раёнам бясплатна 5 тысяч тон паліва і 8 300 тон насення яравых збожжавых культур у парадку пазыкі.

Выдзяляецца таксама 2 мільёны долараў ЗША і 4 мільёны валютнага крэдыту на закупку насення і ўгнаенняў за межамі рэспублікі. Мінпраму рэспублікі даручана ў першую чаргу забяспечыць заяўкі пацярпелых раёнаў на пастаўку ім сельскагаспадарчай тэхнікі, неабходнай для правядзення пасяўных работ. У поўную нагрузку працуюць хімічныя прадпрыемствы. Угнаенні ў поўным аб'ёме накіроўваюцца ў пацярпелыя раёны.

Мінсельгасхарчам сумесна з органамі кіравання на месцах з прыцягненнем навукі абследаваны ўсе пацярпелыя пасевы, вызначаны меры па кожнаму канкрэтнаму ўчастку.

Урад не бачыць вялікай прычыны для драматызацыі становішча, якое складваецца ў земляробстве. Прымаемыя меры дазволяць у кароткія тэрміны завяршыць перасеў загінуўшых пасеваў, захаваўшы ў поўнай меры перш за ўсё збожжавую групу ў структуры пасяўной плошчы.

З гэтай трыбуны звяртаюся да кіраўнікоў абласцей, працаўнікоў сельскай гаспадаркі рэспублікі і абслугоўваючай іх сферы з просьбай праявіць максімум арганізацыі ў правядзенні работ па перасеву, стварэнню падставы для істотнага павышэння эфектыўнасці земляробчай галіны ў гэтым годзе. Упэўнены, мы зможам пераадолець і гэтыя калізіі надвор'я.

### БУДАЎНІЧЫ КОМПЛЕКС

У праграме дзейнасці ўрада знайшлі таксама адлюстраванне праблемы **будаўнічага комплексу**.

Само па сабе павелічэнне магутнасцей не дасць чакаемых вынікаў без стварэння і ўкаранення **рэсурсазберагальных** тэхналогій і матэрыялаў. Вельмі важнае прымяненне новых архітэктурна-планіровачных сістэм аб'ектаў будаўніцтва, якія могуць забяспечыць зніжэнне ў 1,5—2 разы матэрыялаёмістасць і павысіць цеплаахоўныя якасці будынкаў і збудаванняў.

Па-ранейшаму актуальнай застаецца задача павышэння **эфектыўнасці капітальных укладанняў** за кошт скарачэння аб'ёмаў незавершанага будаўніцтва, узвядзення будынкаў і збудаванняў у нарматыўныя тэрміны.

Аб'ём падрадных работ да 2005 года плануецца на 30—40 працэнтаў павялічыць. На гэтай падставе плануецца знізіць матэрыялаёмістасць будаўніцтва ў 2001—2005 гадах не менш чым на 15—20 працэнтаў, у наступнай пяцігодцы — на 20—25 працэнтаў.

Праграмай дзейнасці ўрада прадугледжана развіццё **жыллёвага будаўніцтва**.

У той жа час **якасць будаўніцтва** яшчэ застаецца нізкай, шмат ручной працы, вялікія аб'ёмы незавершанага будаўніцтва. Недастатковая каардынуючая роля мясцо-

Заканчэнне. Пачатак у № 23.

ФЕСТЫВАЛІ

# ПАД ГУКІ «МАЙСКАГА ВАЛЬСА»

## ПРАЙШОЎ У НЯСВІЖЫ ПАРАД ДУХАВЫХ АРКЕСТРАЎ




Такога звыклы да ўрачыстасцей і святаў старажытны Нясвіж яшчэ не бачыў. Па яго вуліцах у маляўнічай форме з аксельбантамі, пагонамі, ківерамі пад барабанны бой і гукі труб страявым маршам прайшлі калоны ўдзельнікаў фестывалю народных духавых аркестраў "Майскі вальс", каб сабраць на Ратушнай плошчы гараджан і гасцей свята. Гэты фестываль адбываецца на Міншчыне ўжо дзевятнаццаты раз. Пераходзячы кожны год з горада ў горад, ён трапіў у старажытны Нясвіж. Гэты горад, бадай, найбольш за іншыя падыходзіць для падобнага мерапрыемства.

Адзначаны пячаткай мінуўшчыны, з багатай гісторыяй, своеасаблівай архітэктурай, авеяны легендамі і паданнямі, ён найлепшым чынам стварае адпаведную такому святу атмасферу і настрой.

І калі на цэнтральнай плошчы, ля старажытнай Ратушы, загучалі фанфары, кожны з прысутных (а людзей, нягледзячы на дрэннае надвор'е, сабралася шмат) адчуў нейкую асалоду, святочную ўзнёсласць, нібыта залацістыя сонечныя прамяні сагрэлі і асвятлілі ўсіх знутры. Васемнаццаць творчых калектываў з розных куткоў Мінскай вобласці і госці з Гродзеншчыны прыбылі ў горад на фестываль духавой музыкі.

А потым у святочным, іскрыстым калейдаскопе зліліся ў адно маршы і вальсы аркестраў, харавое выкананне і харэаграфічныя нумары. Духавая музыка — гэта нешта асаблівае, што ўвайшло ў нашу кроў і плоць, пераходзячы ад пакалення ў пакаленне, тое, без чаго ўжо немагчыма ўявіць сабе наша існаванне.

Таму, відаць, з дзіцячай непасрэднасцю выпархнула з натоўпу на брук плошчы маленькая дзяўчынка ў лёгкай светлай сукенцы і пачала кружыцца пад гукі вальса. Гэта было так уражліва і сімвалічна, што твары прысутных азарыліся нейкай асабліва цёплай, лагоднай усмешкай. А дзяўчынка кружылася ў вальсе, і разам з ёю кружыліся ў чаруючых гуках часу і манчжурскія сопкі, і дунайскія хвалі, і стройныя беларускія бярозкі.

Але вось сотні труб зводнага аркестра фестывалю, падпарадкоўваючыся руху рук дырыжора, заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь, былога кіраўніка ваенна-аркестравай службы Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі, падпалкоўніка ў адстаўцы Барыса Чудакова (на здымку), загучалі заключным акордам гэтага надзвычай цудоўнага дзейства. А потым марш-парад аркестраў, уручэнне прызоў і ўзнагарод завяршылі свята.

**Аляксандр ДЫНІКАЎ.**

**Фота Віктара ГАНЧАРЭНКІ.**





вых выканаўчых і распарадчых органаў.

Па-ранейшаму ў ходзе будаўніцтва жылых дамоў дапускаюцца выпадкі **завышэння аб'ёмаў і кошту работ.**

Урад мае намер жорстка спагаляць з вінаватых.

Нядаўна мы разгледзелі пытанні жыллёвага будаўніцтва на Прэзідыуме Савета Міністраў. Прынята разгорнутае рашэнне. Задача Мінбудархітэктуры, аблвыканкамаў і Мінгарвыканкама — забяспечыць яго няўхільнае выкананне.

### ТРАНСПАРТ І СУВЯЗЬ

Асноўнымі накірункамі **транспартнай палітыкі** Рэспублікі Беларусь з'яўляецца фарміраванне канкурэнтаздольнай на міжнародным і ўнутраным рынках транспартнай сістэмы, развіццё транспартных і камунікацыйных паслуг, адпаведнай інфраструктуры.

Будзе прадоўжана рэалізацыя Праграмы развіцця Беларускай чыгункі да 2010 года і Праграмы развіцця рачных і марскіх перавозак да 2010 года.

Будзе прадоўжаны курс на развіццё і мадэрнізацыю сетак электрасувязі, укараненне сучасных відаў паслуг, павышэнне іх якасці і надзейнасці.

Прыярытэтным накірункам развіцця застаецца пашырэнне гарадскіх і сельскіх тэлефонных сетак сувязі. Тэлефонная шчыльнасць на 100 жыхароў да 2002 года ўзрасце з 27,5 да 30 тэлефонных апаратаў.

Мабільнымі відамі сувязі (сотавая, пейджынгавая, транкінгавая *сувязь) на падставе свабоднай канкурэнцыі* паміж аператарамі да 2002 года будзе ахоплена тэрыторыя, на якой пражывае 70 працэнтаў насельніцтва рэспублікі.

### ЗНЕШНЕЭКАНАМІЧНАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ

Дзяржаўная падтрымка ўмацавання **экспартнага патэнцыялу** застаецца адным з галоўных прыярытэтаў сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны. Яна будзе накіравана на паскарэнне мадэрнізацыі экспартаарыентаваных вытворчасцей па выпуску навукаёмістай высокатэхналагічнай прадукцыі.

**Прыярытэтным** накірункам знешнеэканамічнай палітыкі павінна стаць апераджальнае развіццё экспарту паслуг як важнай крыніцы валютных паступленняў і асноўнай крыніцы фінансавання дэфіцыту гандлёвага балансу.

Вырашэнню праблемы рацыяналізацыі структуры імпарту павінна садзейнічаць рэалізацыя праектаў і мерапрыемстваў Дзяржаўнай праграмы імпартазамяшчальнасці. Неабходна павысіць адказнасць службовых асоб за яе выкананне. Так, напрыклад, Дзяржаўнай праграмай імпартазамяшчальнасці намячалася атрымаць эканомію валютных сродкаў за кошт асваення прадпрыемствамі Мінпрама медыцынскай тэхнікі на суму 20 мільёнаў долараў ЗША. Аднак фактычна за кошт рэалізацыі заданняў праграмы было выпушчана медыцынскай тэхнікі толькі на 321,1 тысячы долараў ЗША, ці 1,6 працэнта ад запланаваных. Такое планаванне і выкананне далей недапушчальнае.

### САЦЫЯЛЬНАЯ ПАЛІТЫКА

Сацыяльная палітыка ўрада будзе накіравана на вырашэнне дзвюх узаемазвязаных задач. Гэта павышэнне ўзроўню сацыяльнай абароненасці насельніцтва, у першую чаргу, найбольш не абароненых катэгорый грамадзян, і актывізацыя чалавечага фактара, стымуляванне вытворчай і якаснай працы.

Стратэгічнай задачай сацыяльнай палітыкі з'яўляецца паляпшэнне **дэмаграфічнай сітуацыі** ў краіне.

Неабходна **рэфармаванне пенсійнага забеспячэння**. Яго мэту ўрад бачыць у дасягненні фінансавай устойлівасці дзяржаўнай пенсійнай сістэмы і развіцці дадатковага пенсійнага забеспячэння з недзяржаўных пенсійных фондаў.

Будуць прыняты меры па рэалізацыі Канцэпцыі рэформы сістэмы пенсійнага забеспячэння ў Рэспубліцы Беларусь. У 2000 годзе неабходна падрыхтаваць законапраект аб дзяржаўным пенсійным страхаванні.

У вырашэнні **праблем сацыяльнай абароны насельніцтва** важная роля належыць прынятай урадам Комплекснай сістэме мер па сацыяльнай абароне насельніцтва Рэспублікі Беларусь на 2000—2005 гады.

У 2000—2001 гадах прадугледжваецца стабілізацыя ўзроўню жыцця насельніцтва, умацаванне сістэмы мінімальных сацыяльна-працоўных гарантый і ўзмацненне адраснай сацыяльнай падтрымкі малазабяспечаных груп насельніцтва.

# ПА СТАБІЛІЗАЦЫІ НАПЕРАДЗЕ

## ЎРАДА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Развіццё **аховы здароўя** ў краіне будзе здзяйсняцца ў рамках Канцэпцыі развіцця аховы здароўя Рэспублікі Беларусь, Праграмы "Здароўе народа".

Нам трэба забяспечыць умовы для аказання якаснай медыцынскай дапамогі насельніцтву і кантролю за санітарна-эпідэмічным станам, асабліва насельніцтва, якое пацярпела ад чарнобыльскай катастрофы.

У галіне **адукацыі** ўрад будзе садзейнічаць далейшаму рэфармаванню сістэмы на падставе рэалізацыі Асноўных напрамкаў развіцця нацыянальнай сістэмы адукацыі.

Працягнецца работа па павышэнню якасці адукацыі, развіццю інавацыйных навучальных тэхналогій, вываду сістэмы адукацыі на ўзровень сусветных стандартаў і павышэнню прэстыжу адукацыі.

Урад надае першаступеннае значэнне адраджэнню і развіццю **нацыянальнай культуры** як аднаму з найважнейшых кампанентаў духоўнага жыцця грамадства. У якасці першачарговых задач прадугледжваюцца захаванне дзеючай сеткі ўстаноў культуры, умацаванне іх матэрыяльна-тэхнічнай базы, забеспячэнне даступнасці паслуг устаноў культуры для ўсіх слаёў насельніцтва.

Дзяржаўная палітыка ў галіне **фізічнай культуры, спорту і турызму** накіравана на рэфармаванне і замацаванне дасягнутых станоўчых вынікаў.

Будзе ажыццяўляцца рэалізацыя мерапрыемстваў Дзяржаўнай праграмы развіцця фізічнай культуры, спорту і турызму, павышэнне ўзроўню фізічнага выхавання дзяцей і моладзі.

Паважаныя дэпутаты!

Асаблівасць прадстаўленай вам праграмы ў тым, што яна ўжо **ў дзеянні**. Урад па ёй працуе і бачыць, што ажыццяўляючыся, яна дае свой плён.

У той жа час мы разумеем, што асноўная работа па стабілізацыі яшчэ наперадзе. Паспяховае выкананне складаных і адказных задач сацыяльна-эканамічнага развіцця, якія стаяць перад краінай, у значнай меры залежыць ад эфектыўнасці і якасці **кіравання эканомікай**. Гэта тычыцца не толькі ўрада, але і "вертыкалі", рэгіянальнага і галіновага кіраўніцтва.

Несумненна, урад надае вялікае значэнне падрыхтоўцы і правядзенню ў гэтым годзе **выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу** Рэспублікі Беларусь, а таксама правядзенню з'езда дэпутатаў мясцовых Саветаў. Гэтыя дзве падзеі павінны садзейнічаць вырашэнню цалкам канкрэтных эканамічных і сацыяльных праблем для павышэння дабрабыту нашых людзей.

СВОЙ ПОГЛЯД

# СВЕДКА



*Мне здаецца, што кожны жыхар Беларусі пабываў у Хатыні. У сярэдзіне красавіка ў нашай школе набіралася група для паездкі ў вёску-мемарыял. Да гэтага часу я там не быў, і мне было цікава на свае вочы ўбачыць тое, пра што напісана столькі кніг, нарысаў, артыкулаў...*

*У дзесяць гадзін раніцы мы былі ўжо ў мемарыяльным комплексе "Хатынь". Стаяла цудоўнае надвор'е, таму, як толькі адчыніліся дзверы, усе, быццам мурашы, высыпалі з аўтобуса. Экскурсавод спрабавала нешта сказаць супраць, але мы былі ўжо ў межах недасягальнасці яе тонкага голасу. Калі нас усё ж сабралі, яна пачала расказваць. Большасць з яе аповеду нам ужо было знаёма з кніг і газет. Мы няўважліва слухалі экскурсавода, але раптам нешта паласнула мне слых. Я пачуў, што ў Мінску ёсць чалавек, які выжыў пасля той жудаснай трагедыі, а тады быў яшчэ дзіцем. Я папрасіў экскурсавода паўтарыць яго прозвішча і запісаў яго ў свой блакнот.*

*Па дарозе дадому я ўсё думаў: "Як жа так? У адным горадзе са мною жыве такі чалавек, а я пра яго нічога не ведаю. І вырашыў абавязкова ўбачыць або хаця б пачуць хатынца.*

*Я стаў дзейнічаць: знайшоў яго тэлефон і адрас. Некалькі дзён тэлефон маўчаў, і я падумаў, што нічога не атрымаецца. Але ўдача ўсміхнулася мне: на трэці дзень дазваніўся. Аказалася, што Віктар Жалабковіч — сапраўды адзін з двух апошніх хатынцаў і жыве ў Мінску. Ад сустрэчы ён адмовіўся: здароўе ўжо не тое. Але згадзіўся адказаць на некалькі пытанняў па тэлефоне. Наогул, Віктар Андрэевіч сказаў, што ўжо некалькі гадоў не дае інтэрв'ю, але для нашай газеты вырашыў зрабіць выключэнне. Вось фрагменты нашай размовы.*

**— Віктар Андрэевіч, раскажыце крыху пра сябе.**

— Дакладная дата майго нараджэння невядомая, недзе 1936 год, па пашпарту — 1934. Калі выдавалі пашпарт, узрост ацэньвалі прыблізна.

**— Пра хатынскую трагедыю напісана шмат кніг, зняты кінастужкі, але мне вельмі цікава пачуць пра гэтыя падзеі ад вас як сведкі.**

— Хоць я быў яшчэ тады дзіцем (сем год), я ўсё дакладна памятаю. Перад вачыма да гэтай пары стаіць той хлеў, полымя і гара абгарэлых трупаў. Выратаваўся я цудам. Мы з матуляю выбеглі з хлява апошнімі, і людзі, што ішлі наперадзе, закрылі нас сваімі целамі. Не ведаю, як, але я выжыў. Калі ўсё закончылася, на месца трагедыі прыйшла мая цётка і забрала мяне да сябе, у вёску Чырвонае. У 1944 годзе мы, ратуючыся ад немцаў, адыходзілі праз лес, па балоце. Нечакана на нас напалі фашысты. У гэтай мітусні я адарваўся ад цёткі і застаўся на балоце адзін. Адтуль мяне забраў нейкі партызан, завёз у вёску Зарэчча і пакінуў у чужой хаце. Там жыла вельмі добрая жанчына, якая, нягледзячы на голад, і тое, што ў яе ўжо было чацвёра дарослых дзяцей, дала прытулак і мне. Тут я пражыў крыху больш за год. За гэты час паспеў скончыць першы клас. Тады не было такіх школ, як цяпер. Вучыліся мы ў звычайнай сялянскай хаце, па 3—4 класы разам. Падручнікаў не было (на наш клас толькі адзін буквар).

У 1945 годзе я папаў у дзіцячы дом у Плешчаніцах, дзе скончыў сямігодку. Пасля школы накіравалі ў Мінск у дзевятае рамеснае вучылішча пры аўтазаводзе. Скончыўшы яго ў 1951 годзе, я пайшоў працаваць на станкабудаўнічы завод. У 1955-м забралі ў армію. Вярнуўшыся, працаваў на родным заводзе, адначасова наведваў вячэрнюю школу. Далей быў Беларускі політэхнічны інстытут і зноў — завод, дзе я працаваў ужо тэхнолагам. У 1960-м на тым жа заводзе пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай, Ядвігай Андрэеўнай, з якою да гэтай пары жывём у згодзе. У нас ёсць дачка і 14-гадовая ўнучка.

**— Зараз вы працуеце на тым жа заводзе!**

— Не, у 1979-м перайшоў на новае месца, дзе працую па гэты дзень.

**— А як вы адзначаеце 9 Мая!**

— Кожны год 9 Мая збіраемся ў Хатыні: прыязджае яшчэ адзін хатынец — Яскевіч і сваякі загінуўшых, гутарым, дзелімся ўспамінамі. Збіраемся мы і 22 сакавіка — у дзень хатынскай трагедыі.

**— І апошняе. Што б вы пажадалі моладзі!**

— Падрастаючаму пакаленню, перш за ўсё, пажадаў бы элементарнай чалавечай дабрыні і павагі да старэйшых.

**— Вялікі дзякуй, Віктар Андрэевіч, за гутарку, усяго найлепшага!**

*Многія з тых, з кім я быў у Хатыні, магчыма, ужо і забылі пра тую паездку, але мне яна запомніцца назаўсёды менавіта з-за тых 40 хвілін нашай гутаркі з Віктарам Андрэевічам. Я перакананы, што той дзень, калі мы ездзілі на экскурсію, я пражыў нездарма, і мне будзе пра што расказаць сваім дзецям і ўнукам.*

**Глеб ЛАБАДЗЕНКА, вучань СШ № 126 Мінска.**

**НА ЗДЫМКУ: Віктар ЖАЛАБКОВІЧ.**

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# ДЗЕЦІ МАЛЮЮЦЬ МІР

2000 год аб'яўлены ЮНЕСКА Годам культуры. Не дзіўна: менавіта культура і ёсць тое вечнае, адзіна каштоўнае, што застаецца ад цывілізацый. Творы мастацтва — плён чалавечай духоўнасці перажываюць уладароў і дзяржаўныя ўтварэнні, з'яўляюцца і сведкамі часу, і сувязнымі зямнога з вечным. Калі ўсе людзі Зямлі навучацца шанаваць культуру свайго народа і культуры іншых народаў, калі кожны чалавек будзе насіць у душы прагу прыгажосці, выхавае ў сабе разуменне яе і навучыцца яе ствараць, чалавецтва ўступіць у новую, шчаслівую эпоху, дзе не будзе месца гвалту і войнам. Акцыя, аб'яўленая ЮНЕСКА, так і называецца — "Культура супраць гвалту". У ёй прымуць удзел мноства асоб, дзяржаўных і грамадскіх арганізацый ва ўсім свеце. Адным з першых на гэтую акцыю адгукнуўся Мінскі мастацкі ліцэй № 26. У ясны сонечны дзень перад будынкам ліцэя адбылася абстаўленая па-святочнаму імпрэза — конкурс плакатаў на тэму "Няхай заўсёды буду я". На расстаўленых на пляцоўцы мальбертах дзеці адлюстроўвалі сваё ўяўленне аб шчасці і міры. У кожнага атрымлівалася па-свойму — на яркіх малюнках усміхаліся дзеці і лёталі пчолы, расцвіталі кветкі і паглядалі смешныя сабачкі...

Якраз у гэты час у ліцэі адзначалася яшчэ адна важная падзея — адкрыццё Дзіцячай мастацкай галерэі, першай у рэспубліцы. Галерэя збудаваная па праекце былога навучэнца ліцэя А. Трусава на сродкі, вынайдзеныя адміністрацыяй Цэнтральнага раёна і Гарвыканкамам. Як адзначыла ў сваёй прамове на адкрыцці галерэі дырэктар школы-ліцэя З. Паўлава, гарадскія ўлады зразумелі важнасць падтрымкі духоўнай культуры, і перш за ўсё ў дачыненні да дзяцей. Дырэктар галерэі — намеснік дырэктара школы Я. Саковіч. Там, у будынку галерэі, шмат прац, якія таксама сведчаць пра перамогу духоўнасці над агрэсіяй, пра тое, што дзеці ўмеюць разумець і ствараць прыгажосць. І таму ў культуры нашага народа ёсць будучыня.

**Людміла ШНІП.**

**Фота Максіма ПРУПАСА.**







СПАДЧЫНА

# СА СКАРБНІЦ МАСТАЦКАГА МУЗЕЯ



*Царскія вароты. 1669—1672 гады.*

***АД РЭДАКЦЫІ.*** **Як і іншыя еўрапейскія культуры, беларускае мастацтва, культура вартыя сапраўднай пашаны і самага ўважлівага вывучэння. Адно са сведчанняў таму — экспазіцыі, а яшчэ ў большай ступені запаснікі Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі. Рэчы, што там захоўваюцца, — каштоўнасці самага высокага кшталту. Таму мы распачынаем пастаянную рубрыку "Са скарбніц Нацыянальнага мастацкага музея", дзе з дапамогай навуковых супрацоўнікаў гэтай мастацкай установы будзем расказваць пра найбольш адметныя экспанаты, якімі там валодаюць. Тэма нашага першага наведвання — старажытныя беларускія іконы.**

Нядаўна ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі экспанавалася выстава іканапісу і разьбы Беларусі XV—XVII стагоддзяў. На ёй можна было пазнаёміцца з работай, якая на працягу 20 гадоў была зроблена аддзелам старажытнабеларускага мастацтва. За гэты перыяд падрыхтавана 40 выстаў у Беларусі, Расіі, Польшчы, Літве, Галандыі, Іспаніі і іншых краінах, апублікаваны альбомы, манаграфіі, каталогі, артыкулы па мастацтву Беларусі XII—XVIII стагоддзяў.

Асаблівасць старажытнай культуры Беларусі ў тым, што тут пры захаванні візантыйска-рускіх традыцыйназіраецца засваенне заходнееўрапейскіх стыляў — у XIII—XV стагоддзях готыкі, у XV—XVI— Рэнесанса, у канцы XVI—XVIII — барока, якое ў 1760-х гадах змяняецца класіцызмам. Напрыклад, у "Рафаіле з Товіем" (1470-я гады) назіраюцца рысы готыкі, а ў "Хрысце Усетрымальніку" з Быценя XVI стагоддзя — ужо моцныя традыцыі Рэнесанса.

У асноўным жа нашы экспанаты адносяцца да барока, якое праіснавала амаль два наступныя стагоддзі. У помніках XVII стагоддзя вельмі добра прасочваюцца асаблівасці барока, якія праяўляюцца ў арнаментыцы фону, дэкоры долічнага афармлення рам і палёў ікон. Нярэдка кампазіцыі былі запазычаны з гравюр беларускіх, заходнееўрапейскіх старых друкаваных кніг, якія ствараліся ў стылі барока.

Мясцовыя мастакі пераасэнсоўвалі ў гравюрах і іканаграфічныя схемы, ствараючы абагачаныя імі новыя іканаграфічныя варыянты, што асабліва добра адчуваецца ў стварэнні шматлікіх ікон Багародзіцы.



*Хрыстос Усетрымальнік. XVI стагоддзе.*

У цудоўных узорах іканапісу і разьбы XVII—XVIII стагоддзяў, якія некалі ўпрыгожвалі храмы, добра прасочваецца фарміраванне і развіццё сваёй нацыянальнай школы. У другой палове XVII стагоддзя яна аказала вялікі ўплыў на станаўленне стылю барока ў Маскоўскай Русі. Выхадцы з Беларусі працавалі ва ўсіх відах мастацтва, што прынесла ім славу і прызнанне. Гэта вызначылася і ў замацаванні ў сусветным мастацтве тэрміна "беларуская рэзь скразная", добрым прыкладам якой служаць царскія вароты 1670 года.

Іконы 1638, 1648, 1650, 1656, 1678 гадоў даюць досыць яркія ўражанні аб асаблівасцях і поспехах беларускай нацыянальнай школы ў XVII стагоддзі і развіцці яе ў XVIII стагоддзі. На выставе можна было пазнаёміцца з іконамі з Юрцава, Рухчы, Басценавічаў, Латыгава, Обрава, Зялова, Барані, работамі ізографаў Яна, Сілініча, С. М. Сазша, манаграміста МВ, рэзчыкаў царскіх варот, іншай разьбы, выкананых у стыле барока і ракако. І толькі ў работах канца XVIII — пачатку XIX стагоддзяў ужо добра відаць рысы новага стылю класіцызму, напрыклад, у іконе Васілеўскага.



*Архангел Рафаіл з Товіем. 1470—1480 гады.*

Такім чынам, помнікі іканапісу і разьбы XV—XVIII стагоддзяў даюць яркае ўяўленне пра своеасаблівасць і арыгінальнасць культуры Беларусі, якая стала яркай старонкай у мастацтве Усходняй Еўропы.

**Надзея ВЫСОЦКАЯ,**
**доктар мастацтвазнаўства.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

# ТАЛЕНТАЎ

Лёсу было заўгодна, каб у 1900 годзе з'явіліся на свет Гаўрыла Гарэцкі, Кузьма Чорны, Уладзімір Дубоўка, Уладзімір Жылка, Міхась Забэйда-Суміцкі, Мікола Касяровіч...

Суквецце імёнаў, сузор'е Творцаў. У зоркі Міколы Касяровіча сваё, адметнае ззянне. Паводле сведчання яго пабрацім-наступніка М. Улашчыка, сярод "іншых талентаў, якія меліся ў Касяровіча, быў талент дзелавітасці: ён умеў неяк лёгка арганізаваць, "прабіць" самую цяжкую справу".

Творчая і грамадская дзейнасць, распачатая яшчэ юнаком-ігуменцам у віхуры вайны і рэвалюцыі, была гвалтоўна перапынена ў 1930 годзе, а ў 1937-м яго фізічна знішчылі і лічылі гэта дзяржаўным сакрэтам больш за паўстагоддзя.

Але і сёння Мікола Касяровіч з намі. Ён быў душою беларускага краязнаўства 20-х гадоў, яшчэ пасапраўднаму не вывучанага і не асэнсаванага. Творчая спадчына Міколы Касяровіча, яго кніга "Краязнаўства" — наш неацэнны скарб. У залаты фонд беларусазнаўства ўвайшлі Касяровічавыя кнігі "Віцебскі краёвы слоўнік", "Беларуская архітэктура", працы па літаратуразнаўству, гісторыі, этнаграфіі, мастацтвазнаўству, публіцыстыка, падарожныя дзённікі.

Прапануем увазе чытача нататкі "Менск — Зарэчча", упершыню змешчаныя дваццацігадовым М. Касяровічам 24 чэрвеня 1920 года ў мінскай газеце "Беларусь" пад псеўданімамі Васіль Гаручы. Твор прасякнуты імкненнем убачыць харастcovered ў родным краі, бо "Беларусь зусім яшчэ не агледжана".

**Віталь СКАЛАБАН.**

дае адзін з нас, ды зноў ідзём моўчкі, хоць кожнаму хочацца сказаць:

— Але! Многа бабскага ворыва бачыла беларуская зямелька....

Дарога раздвайваецца: направа — у Койданаў. Тут стаіць Сеньніцкая цэрква, а налева — урад Сеньніцкай воласьці.

Неўдалёку відаць вёска Калядзічы і Сеньніца. Ля шляху ж толькі некалькі старых хат, наўкол каторых будуюцца новые.

А там — зноў жыта з вёскамі. Дзе-ні-дзе падходзяць бліжэй к дарозе пералескі.

А во і дратавые загарадкі і акопы, — сьведкі азьвярэньня людзкога.

І, гледзячы на іх, у самога падымаецца нядобрае пачуцьцё, злосьць на ворагаў народу. Далей-жа, як нарокам, яшчэ адна памятка глупства людзей — апусьцелая карчма. Няма былога гоману, крыку і іншых прыкмет яе. Пуста і глуха... Замёрла карчма на Беларусі. І ніхто ня шкадуе, што ня аддыхае цераз кожные пяць вёрст. Жудасна становіцца, як успомніш, што на кожные пяць вёрст у ва ўсіх кірунках вось гэтые карчмы смакталі соткі год пот беларускага народу і труцілі яго душу. Міма...

Вот і Самахвалаўскіе могілкі з старэнькаю цэркаўкай — адзнака могілак на Беларусі. За імі, у лагчыне, наша доўгая Птыч, у гэтым мейсцы яшчэ ня маючая свайго вялічава-шырокаго выгляду. На левым беразе — млын; поўна завозьнікаў.

Пакупаўшыся, ідзём у мястэчко, населенае беларусамі і жыдамі. У жыдоў лёгка дасталі паесьці і распытываемся ў гаспадароў аб тым, аб сім. Аб адносінах да ўлады ніхто ня гаворыць. Ідзём па ніштo сабе выглядаючай вуліцы. Ніякага тэатру, клюбу. Два рэстараны з гарэлкамі выглядаюць задзірыста. На аднэй сьцяне — адозвы Беларускай Вайсковай Камісіі; сяляне чытаюць.

— Эт... Пакуль войско ня будзе сапраўды беларускае, — далібох ніхто ня пойдзе. Трэба, каб яно было пад камандаю нашай Рады, — чуцен голас з натоўпу.

Іці шляхам надаела, зварачваем на прасёлак. Далёка ў жытах чутны званкі вясельля. Паперадзе на добрых конях едзе малады з кветкаю на грудзёх і з самым вясёлым, а затым сьмешным, тварам. За ім маладая ў беларускім уборы, з стужкамі і іншымі прыладамі, з ёю дружкі. Усё на іх так і крычыць яркімі колерамі. Далей — сваты і госьці. Сярод апошніх шмат прыгожых красуль, і становіцца злосна на тых, што друкуюць у беларускай прэсе фотаграмы нейкіх вуглаватых "беларускіх кабет", як на злосьць усіх, як адна асеўшых, бяздушна выглядаючых. Не маглі даць агульнага тыпу, але сабралі калекцыю, ня хочацца казаць, вырадкаў...

Вясельле праносіцца міма; мы мінаем вёску Куркавічы, прасторы папараў, яры, пералескі і хутары. Лёгка і прыемна ідзецца, атрымоўваючы ўсё новые і новые ўражаньні прыроды, быту.

Вось сяляне карчуюць пасеку. Цяжкая і марудная праца.

— Памагай Бог!

— Дзякуй, — адказуюць зморaные сяляне па-беларуску. Наогул польскай мовы ад Менску мы яшчэ ня чулі.

— А здалёк?

— Здалёк, дзядзька...

Мы садзімся на траву, і сяляне рады гэтаму і акружаюць нас.

— Ну, што чуваць? — нейкім таемным тонам пытае стары сівы дзед. У голасе жаданьне пачуць праўду, жаданьне даверыцца і ціхая баязьлівасьць. І нейкім блізкім становіцца ён, як паглядзіш у яго вочы.

— А аб чым бы, дзедка, хацеў ведаць?

Дзед чуе, што я ўгадаў яго думку, бярэцца за бараду і ўжо расчараваны манатонна вядзе:

— Нам што?.. Нам усё роўна; абы нас ня чапалі. Ня ведаеце, будуць браць коні? У нас пісалі...

— Ня ведаю, ня чуў...

У канцы канцоў, рыжы з бегаючымі вачыма, як бы антыпод дзеда, ня вытрымлівае:

— Ну, а як вам здаецца? Вы болей ведаеце... Ці затрымаецца ўлада? А мо бальшавікі прыдуць? — хітра зараз выпаліваe ён.

— Ня ведаем, — падымаючыся, кажам мы...

Насустрач курганы, засеенае поле. Адзін з сяброў кажа:

— Кажаце, народ... Вось народ хацеў пагаманіць з намі, а мы пашлі... "Прыдуць, ня прыдуць; затрымаецца, не затрымаецца"... Народ любіць пэўнасьць; хоча ведаць...

Ледзь ня ля кожнага хутара курган і маленькіе могілкі — уласные. На крыжавых дарогах старые крыжы, убраные хвартушкамі, кавалкамі палатна. Чуецца старына, мінулае. Што ў курганох? Што значаць вялікіе каменьні ля іх? Распытывацца няма калі. Ясная, ціхая ноч, дый хочам дайці да раней назначанага пункту. Праходзім праз вялікае сяло. Дзе-ні-дзе на лаўках шэпчуцца пары. Ня чуваць, як бывала даўней, роднай, вольнай песьні; сяло дрыжэло, прырода слухала... Чамусь замоўкла на ўсёй Беларусі сяло.

А вось, за сялом, ізноў на Слуцкім ужо шляху — ніжняя палавіна ветрака невялікай будыніны. Загадачнай башняй выглядае яна ў ночы. Верхнюю яе палавіну зьнясло бурай. Многа вятрак мае год, і многа ў ім тварылася за яго век фантастычнага, як кажуць у тутэйшай лягендзе аб ім, апошні акт якой гэто лопат кулямётаў з ветрака і трэск ружэйных куль праціўніка, шчапаючых абшыўку; кулямётаў і куль грамадзянскай вайны. Тут-жа хтось замучан, хтось разстрэлен...

Багаты засценак Карма раскідан па прылягаючай к лесу нізіне. Мае сваю старэнькую цэркаўку-прошчу з нярукатворнай іконай Божай Мацеры і, нібы, цалебнай крыніцай узбок царквы. Ваду і цяпер усё бяруць з яе то на хворые вочы, то на сёе, то на тое. Беларуская пачатковая школа туліцца ў маленькай хатцы ня гледзячы на заможнасьць насяленьня...

Настаўніцай быў старанна пастаўлен дзіцячы беларускі спэктакль. Насяленьне складаецца з праваслаўнай шляхты за выключэньнем некалькіх хат. Тутэйшая шляхта даўняя і мае штосьць сваё спэцыфічнае, рознае нават ад іншай шляхты Ігуменшчыны.

Насяленьне займаецца хлебаробствам, ёсьць два-тры рамесьнікі. Як прыкладным заняткам, прыносячым вялікі даход, тут займаюцца пчалярствам. У кожнага селяніна ёсьць па некалькі калод пчол, хоць апошніе годы сваімі кліматычнымі варункамі і ня выгодны для пчол, ды агульнае становішчо шкодзіло дальнейшаму разьвітку пчалярства на Ігуменшчыне, дзе яно і даўней стаяло ня нізка. Сам гэрб Ігуменшчыны сьведчыць аб гэтым: на зялёным полі сярэбраны куст красак, ля якога ўецца пяць занятых пчол. Дый слава Ігуменскіх мядоў яшчэ ня замерла. А ўсё ж рамачных вульляў у Карме ня стрэнеш...

На старых крыжох Карменскіх могілак вісяць фігуры Хрыста свайго вырабу, а ў цэркаўцы, дык досыць вялікая фігура нейкага сьвятога, работы тутэйшага мастака. На новых крыжох гэта ня сустракаецца.

Крыніца, ікона, курганы і сама шляхта маглі б, здаецца, расказаць аб мінуўшчыне, якая неяк асобна адчуваецца тут: здаецца і паветро тут даўнейшае. Але за няхватам часу ўведаць нічога не прышлося, апроч таго, што яшчэ ў перадваенные часы тут былі несьвядома знаёмы з старой беларускай літэратурай, якой карысталіся, разказваючы, вядома, напамяць, на вясельлях і вечарынках. Але і гэта за апошніе часы вывелася ледзь ня ўсё. І няма каму запісаць астаткаў старасьветчыны, пакуль яна ня зьнікла.

**Васіль ГАРУЧЫ.**
*"Беларусь", 24 чэрвеня 1920 года.*

***P. S.*** *Захаваны правапіс арыгінала.*

РАЗВІТАННЕ

## ПАМЯЦІ Эдварда ВАЙВАДЗІША

Беларускі настаўнік і паэт Эдвард Вайвадзіш быў чалавекам няпростага лёсу, вялікай сілы духу, працаўніком і жыццялюбам. Трохі больш за тры гады назад мы адзначалі ў яго хаце ў вёсцы Вайвады ў Краслаўскім раёне, што ў Латвіі, 100-гадовы юбілей Эдварда Людвігавіча, а ў канцы сакавіка гэтага года ён адышоў у лепшы свет. Апошні яго верш, як і шэраг папярэдніх, прадыктаваны ім дачцэ Ірэне, якая беражліва запісвала паэтычныя радкі бацькі. У гэтым вершы ён гаворыць аб сабе як аб чалавеку трох стагоддзяў.

Аб асноўных вехах біяграфіі Эдварда Вайвадзіша мы ўжо расказвалі на старонках "Голасу Радзімы". Гэта вучоба ў Друйскай двухгадовай царкоўнапрыходскай школе, у Дрысенскім чатырохкласным вучылішчы; праца пісарам у валасным праўленні; двухгадовая вучоба на паштова-тэлеграфных курсах у Петраградзе; пасля перавароту 1917 года — вяртанне на радзіму; з 1922-га — праца настаўнікам у сельскіх беларускіх школах, удзел у беларускім культурна-асветніцкім руху; у 1926 годзе — першая публікацыя вершаў у газеце "Голас Беларуса", а пазней у калектыўным зборніку "Першы крок"; пасля 1935 года — праца на ўласнай гаспадарцы; у час вайны — нямецкі палон на востраве Руген; у пасляваенныя гады сумяшчаў працу калгасніка з працай настаўніка...

"Я не самотны, я кнігу маю..." — сказаў, паміраючы, слаўны сын беларускага народа Максім Багдановіч. Гэтыя словы мог паўтарыць і Эдвард Вайвадзіш, бо яго кніга "Вершы, паэма, згадкі" засталася з намі і будзе абуджаць добрыя пачуцці і ў нашых нашчадкаў. Пасля яе выхаду напярэдадні 100-гадовага юбілею Эдвард Людвігавіч быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі.

У адным са сваіх вершаў Эдвард Вайвадзіш пісаў:

*Айчызна. Край родны*
*ты мой,*
*Як добра тут жыць мне*
*з табой!*
*Здаецца, к табе я прырос*
*Карой беласнежных бяроз.*

Як тыя бярозы, светлым быў дзень, калі гэтага Чалавека-легенду, сувязнога пакаленняў, праводзілі ў апошнюю дарогу. Бярозы, светлыя, як памяць аб ім, растуць ля магілы Эдварда Вайвадзіша на могілках непадалёк ад яго роднага дома.

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА.**
Латвія, г. Даўгаўпілс.

У НЬЮ-ЙОРКУ

13-га траўня адбыўся справаздачна-выбарчы сход аддзелу БАЗА. На дзень правядзеньня выбараў сябрамі аддзелу зьяўляліся 105 асобаў.

Справаздачы за багаты падзеямі апошні каляндарны год зрабілі старшыня аддзелу Віталь Зайка, сакратар аддзелу Галіна Нацумчык. Фінансавую справаздачу скарбніка аддзелу Анатоля Тальянскага зачытала старшыня рэвізійнай камісіі Ала Орса-Раманава. На жаль, сам скарбнік ня быў прысутны на сходзе.

На пасаду старшыні аддзелу на наступны год былі высунутыя тры кандыдатуры: Віталь Зайка, Ала Кузьміцкая, Ігар Шапаміцкі. Кожны з кандыдатаў выступіў з кароткай прамовай, у якой выклаў праграму дзейнасьці й адказаў на пытаньні. В. Зайка ў сваёй прамове зрабіў націск на прыцягненьне ў арганізацыю новых беларусаў, якія прыязджаюць у ЗША; на забесьпячэньне калегаваньня й супольнага баўленьня часу; на стварэньне камісыяў пры аддзеле — палітычнай, выдавецкай, арганізацыйнай, дапамаговай, інфармацыйнай, фінансавай — якія-б ушчыльную займаліся канкрэтнымі пытаньнямі аддзелу. Выступоўца адзначыў неабходнасьць пашырэньня кантактаў як з амэрыканскімі масавымі сродкамі й афіцыйнымі ўладамі, так і з палітыкамі і журналістамі ў Беларусі.

**"Весткі й Паведамленьні".**

ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

## АДКАЗЫ З АЎСТРАЛІІ НА АНКЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНЫ"

Беларусы Аўстраліі шчыра і сардэчна вітаюць "ЗБС "Бацькаўшчына" з нагоды 10-годдзя дзейнасці на грамадскай ніве.

Ваша праца заслугоўвае асаблівае ўдзячнасці, бо вы праводзілі беларускую дзейнасць у вельмі няспрыяльных палітычных умовах у Беларусі.

"ЗБС "Бацькаўшчына" абудзіла беларусаў па ўсёй тэрыторыі былога Савецкага Саюза аб'ядноўвацца ў свае суполкі і арганізацыі.

Гэтая важная праца будзе запісана залатымі літарамі ў гісторыі Беларусі.

*1. Што значыць узнікненне і дзейнасць "Бацькаўшчыны" для беларусаў свету? Для Вас асабіста?*

Узнікненне "ЗБС "Бацькаўшчына" — гэта першае, ад часу павеяла беларушчынай з Менска. Завязаліся лучнасці і кантакты з рознымі беларускімі дзеячамі-патрыётамі і арганізацыямі. Аб'яднанне паднялО наш дух і падштурхнула да далейшай актыўнай дзейнасці ў беларускіх арганізацыях Аўстраліі.

*2. Як бы Вы ацанілі дзейнасць "Бацькаўшчыны" за гэтыя 10 год?*

Без дзейнасці "ЗБС "Бацькаўшчына" Беларусь была б куды бяднейшая, мы на эміграцыі не ведалі б, што ёсць беларускія арганізацыі на Калыме, у Казахстане ці ў Новасібірску.

*3. Якія грамадска-культурныя акцыі, праведзеныя "Бацькаўшчынай", прынеслі найбольшую карысць і запомніліся Вам? Што, на Ваш погляд, у дзейнасці згуртавання было недасканалым або няўдалым?*

Першы і Другі з'езды беларусаў свету. Нам нічога невядома пра няўдалую дзейнасць "ЗБС "Бацькаўшчына".

*4. Калі Вы былі ўдзельнікам Першага ці Другога з'ездаў беларусаў свету, падзяліцеся сваімі думкамі і ўражаннямі.*

Не прымаў удзелу ў I або II з'ездзе беларусаў свету.

*5. Якія Вам бачацца перспектывы дзейнасці "Бацькаўшчыны" на пачатку XXI стагоддзя?*

Цяжка прадбачыць, бо палітычныя ўмовы ў цяперашняй Беларусі вельмі складаныя.

*6. Вашы прапановы, пажаданні.*

Жадаем, каб "ЗБС "Бацькаўшчына" далей працягвала сваю цяжкую грамадскую працу на карысць нашаму беларускаму народу. Галоўнае, каб у вашай працы была еднасць, каб вы выступалі адзіным фронтам, баранілі беларушчыну ўсімі сіламі і заўсёды змагаліся за ідэю вольнай і незалежнай дэмакратычнай беларускай дзяржавы.

Жыве Беларусь!

**А. ГРУША,**
**старшыня Федэральнай рады беларускіх арганізацый у Аўстраліі.**

РАДАВОД

# НА ПОКЛІЧ РОДНАЙ СТАРОНКІ

## З VI СУСТРЭЧЫ ЛІДЧАН ЗАМЕЖЖА

Традыцыя збіраць Сусветныя з'езды лідчан нарадзілася ў 1991 годзе. Менавіта тады ў майскай квецені вясны і адбылася першая такая сустрэча, скліканая пры падтрымцы мясцовай улады Таварыствам польскай культуры Лідчыны. Пазней да высакароднай акцыі далучылася і Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны.

Воляю лёсу ў даваенны час і ў гады другой сусветнай вайны многія лідчане былі раскіданы па ўсім свеце. Аднак дзе б ні жыў чалавек, родная старонка моцна прыцягвае да сябе. Таму добрая задума грамадскіх арганізацый знайшла станоўчы водгук у суайчыннікаў у ЗША, Канадзе, Аўстраліі... Праўда, апошнім часам дэлегатаў паменшала.



І вось у старажытным горадзе сабраўся чарговы, шосты па ліку з'езд лідчан. Па беларускаму звычаю іх сустрэлі хлебам-соллю, прывіталі песнямі. Размясцілі гасцей у атэлі, некаторыя жылі ў блізкіх сяброў-знаёмых. А назаўтра пачалася работа, якая доўжылася пяць дзён. Адны суайчыннікі адправіліся на экскурсіі, другія — у гісторыка-мастацкі музей, трэція — на вечарыну беларускай культуры. У музеі дэлегаты з цікавасцю агледзелі выставы твораў народнага мастацтва Лідчыны ды пазнаёміліся з жывапісам мастакоў Мікалая Бандарука з Гродна і лідчаніна Міколы Лазоўскага. А як уразіла ўсіх сустрэча ў Доме культуры! Ансамблі "Вербніца" і "Калі ласка" дзіцячыя ўзорныя калектывы школ так зачаравалі прысутных, што раз-пораз чуліся воклічы "Брава!", "Біс!" і дружныя апладысменты. Аматары прыгожага пісьменства мелі на вечарыне магчымасць пагаварыць з пісьменнікамі Данутай Бічэль-Загнетавай, Хрысцінай Лялько, Уладзімірам Клімовічам, мясцовымі паэтамі Міхасём Мельнікам і Віктарам Бачаровым.

Шмат прыемных успамінаў выклікалі ў гасцей паездкі па вёсках і мястэчках колішняга Лідскага павета. Геранёны, Жамыслаў, Ліпнішкі, Суботнікі... З гэтымі і іншымі паселішчамі звязаны многія старонкі гісторыі. Як і ў мінулыя гады, хапіла жадаючых здзейсніць экскурсію па маршруту Навагрудак — Свіцязь — Завосце па знакамітым шляху вялікага паэта двух славянскіх народаў Адама Міцкевіча. Экскурсіі спалучаліся з пасяджэннямі часовых клубаў па інтарэсах, прыватнымі спатканнямі, пленарнымі сходамі. Змястоўна і эмацыянальна прайшла сустрэча дэлегатаў у музычным цэнтры "Панарама". Кранальі душу выступленні, песні ў выкананні лепшых калектываў горада і народнага хору "Бацькаўшчына" з Гродна. Гасцей шчыра прывіталі словам і песняй прадстаўнікі абшчын мясцовых літоўцаў, татар, яўрэяў. Калі загучалі першыя словы песні "Магутны Божа", усе ў зале падняліся з месцаў і таксама сталі спяваць.

Хутка праляцеў час, і прыйшоў дзень ад'езду. Многія дэлегаты прысутнічалі на ўсіх шасці з'ездах, некаторыя наведалі лідскую зямлю першы раз пасля разлукі, якая доўжылася больш як паўстагоддзя. На развітанне беларуская і польская народныя песні выконваў народны ансамбль "Гудскі гармонік" з саўгаса "Лідскі". На тварах гасцей удзячныя ўсмешкі і смутак. Гучыць марш: час садзіцца ў аўтобусы. Шчымлівa на сэрцы, калі бачыш расставанне блізкіх людзей. Разумею гэта, бо сам звездаў адпаведных пачуццяў, калі ў 1989 годзе развітваўся на лузе ля ракі Нараў на Беласточчыне з беларусамі вёсак Рыбалы і Паўлы. Яны прымалі тады гасцей з Гродзеншчыны ўсёй грамадою.

Словам, такія сустрэчы не забываюцца, застаюцца ў памяці чалавека назаўсёды.

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ.**
**Фота аўтара.**




СТАСУНКІ

## ЗВЯНО ПАМІЖ ЗАХАДАМ

***У Беларускім дзяржаўным універсітэце "адкрый дзверы" Клуб нямецкай культуры і навукі. У рамках дзейнасці клуба прайшоў семінар "Конрад Адэнаўэр і яго роля ва ўзнікненні і станаўленні нямецкай дзяржаўнасці".***

***З прадстаўніком нямецкага Фонду К. Адэнаўэра ў Санкт-Пецярбургу доктарам Марліс САЛАЗАР пагутарыў наш карэспандэнт.***

**— Спадарыня Салазар, дзейнасць Фонду К. Адэнаўэра, які вы прадстаўляеце, добра вядомая ў Еўропе і свеце. На жаль, прадстаўніцтва фонду ў Беларусі няма. У чым прычына?**

— Прадстаўніцтвы фонду функцыяніруюць сёння ў 56 краінах. У тым ліку два ў Расіі: у Маскве і Санкт-Пецярбургу. Ёсць прадстаўніцтвы ў Кіеве (Украіна) і Таліне (Эстонія).

У Беларусі прадстаўніцтва фонду няма, хаця размовы пра магчымасці адкрыцця пачалі весціся яшчэ чатыры гады назад. У многім цяжкасці з адкрыццём прадстаўніцтва звязаны з фінансавымі расходамі.

Бюджэт арганізацыі, які ацэньваецца ў 210 мільёнаў нямецкіх марак, у гэтым годзе будзе скарочаны на 19 працэнтаў. У сувязі з гэтым разглядаліся прапановы на нейкі час спыніць дзейнасць прадстаўніцтваў фонду ў Санкт-Пецярбургу, Рыме, Лондане. Прадстаўніцтва фонду ў Санкт-Пецярбургу, якое я ўзначальваю, пакуль удалося "адстаяць". Спадзяюся, што сёлета яно прадоўжыць сваю працу. Гаварыць жа ў данай сітуацыі пра адкрыццё прадстаўніцтва фонду ў Беларусі, як разумееце, даволі праблематычна. Другая прычына — палітычная сітуацыя ў рэспубліцы, у рамках якой дзейнасць фонду ў Мінску пакуль бачыцца вельмі абмежаванай.

Але хочацца спадзявацца, што з часам вядомы ў Германіі фонд адкрые дзверы свайго прадстаўніцтва і ў Мінску, стаўшы такім чынам сувязным звяном паміж Захадам і Усходам.

**— З якіх сродкаў складаецца бюджэт фонду і на якія мэты ён выкарыстоўваецца?**

— Складальнікаў бюджэту фонду некалькі. Тут ахвяраванні юрыдычных і фізічных асоб, узносы, сродкі ад продажу друкаванай прадукцыі, якую выпускае фонд, і дзяржаўныя датацыі. На думку кіраўніцтва фонду, сродкі павінны накіроўвацца на мэты, якія б садзейнічалі працэсу аб'яднання Еўропы і з'яўля-



## З ПОШТЫ Я. ЛЕЦКІ

Дарагі Жэня! Ёсць у Браціславе яшчэ адзін шчыры сябар Беларусі — прафесар Эдуард Гашынец. Спачатку ён сябраваў з Ф. Янкоўскім, потым далучыўся і я, а цяпер мы з ім па сумнай модзе апошніх гадоў толькі зрэдку пішам адзін аднаму, але і гэта добра.

Вось прыехалі Андрэй і Наташа, прывезлі пошту за два тыдні, у тым ліку і пісьмо ад Э. Гашынца, а ў пісьме — просьба, якую я без тваёй дапамогі не змагу задаволіць. Ён просіць прыслаць яму ксеракопію артыкула Міхаіла Маліноўскага "Яўрэі на Беларусі", змешчанага ў "Голасе Радзімы" № 47 (2293) за 19 лістапада 1992 года, стар. 3 (нават такая прафесарская дакладнасць!).

Працуе Гашынец у Славацкай акадэміі навук, нямала добрага робячы для справы нашай дружбы са славакамі. З асаблівай стараннасцю ён часта звяртаецца да беларуска-славацкай партызанскай барацьбы. Вось і гэтым разам прыслаў мне і свой пераклад артыкула са "Звязды", і "карту баёў", прычым у двух экзэмплярах, нібы прадбачачы, што адзін з іх я вышлю табе.

Зрэшты, пішу і думаю: а ці не ведаеце вы ў рэдакцыі гэтага цікавага чалавека і навукоўца, ці не рэкамендавалі мы, светлай памяці Федзя Янкоўскі або і я, "Голасу Радзімы" яго калі-небудзь раней?

Ты ўжо, браце, пастарайся ўважыць славака сяброўскай паслугай. Я з ім асабіста пазнаёміўся ў лістападзе 1979-га, многа хадзілі па цудоўнай Браціславе, і гаманілі шчыра, і чарачку бралі... Прыемны ўспамін. Усяго найлепшага!

**Янка БРЫЛЬ.**

# І УСХОДАМ

ліся дастойным укладам у працэс наладжвання ўзаемаразумення людзей. Гэтаму магла б служыць падтрымка таленавітай моладзі, праграм міжнароднага супрацоўніцтва. У ліку прыярытэтных таксама праграмы супрацоўніцта ў галіне навукі, адукацыі і культуры. Асабліва фонд зацікаўлены ў аказанні ўсебаковай падтрымкі дзяржавам, якія перажываюць перыяд станаўлення маладой дэмакратыі. Вялікую ўвагу надаём пытанням арганізацыі палітычнай адукацыі.

**— Ці магчымае наладжванне цеснага супрацоўніцтва фонду з Беларуссю, нягледзячы на адсутнасць яго прадстаўніцтва ў Мінску?**

— Мне здаецца, што адказам на гэтае пытанне магла б стаць сама ініцыятыва Клуба нямецкай культуры і навукі, які дзейнічае ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, правесці семінар, прысвечаны жыццю і дзейнасці К. Адэнаўэра.

Пры гэтым трэба падкрэсліць, што я ў Беларусі знаходжуся не першы раз. Мне і раней даводзілася бываць па рабоце ў вашай рэспубліцы. У прыватнасці, мы правялі з беларускімі калегамі некалькі семінараў не толькі ў Мінску, але і ў іншых гарадах краіны.

**Вітаўт ДАШУК.**

## УДАКЛАДНЕННЕ

# ЗВЕСТКІ ПРА ПАЭТА Янку БЫЛІНУ

У газеце "Голас Радзімы" (№ 36, 1999) прачытала я зацемку Ю. Гіля зь Вільні, зь якой даведалася пра ўшанаваньне памяці кс.кс. Адама Станкевіча ды Яна Семашкевіча. Аўтар напісаў: "Сёлета спаўняецца 50 гадоў з дня сьмерці ў сталінскім ГУЛАГу Адама Станкевіча і Яна Семашкевіча. Багаслужэньне на беларускай мове з гэтай нагоды правёў кс. Ян Шуткевіч..."

Здавалася б, усё, як мае быць, калі ўшаноўваецца памяць беларускіх сьвятароў і да таго ж яшчэ багаслужэньнем на беларускай мове. Добра, што такая магчымасьць ёсьць у Вільні. Хачу адно спраставаць адну недарэчнасьць усяго мерапрыемства. Ян Семашкевіч, ксёндз, беларускі паэт, не памёр 50 гадоў таму ў сталінскім ГУЛАГу, яго там нават не было. Адкуль такія весткі ў аўтараў мерапрыемства? Думаю, калі ўжо ў гонар нашых беларускіх дзеячаў арганізоўваюцца мерапрыемствы й называюцца іхнімі імёнамі вуліцы, дык варта ведаць сапраўдныя іхнія жыццёвыя лёсы й мейсца вечнага спачыну. Бо, можа, варта было б зарганізаваць туды пілігрымку?

Сама пра паваенны лёс Янкі Быліны (паэтычны псэўданім Я. Семашквіча) даведалася толькі ў 1996 годзе. Інспірацыяй для пошукаў сталася біяграфія слоўніка "Беларускія пісьменьнікі" (т. 1, Мінск, 1992). Вынікала зь яго, што Я. Быліна памёр там, дзе я праз чатыры гады вучылася ў ліцэі: у Міхалаве на Беласточчыне. Як высьветлілася, быў ён там сапраўды ксяндзом, але да 1946 г. Пазьней быў назначаны ў парахвію Мар'янава каля Саколкі, дзе будаваўся касьцёл. Там Я. Семашкевіч давёў будову касьцёла да завяршэньня й стаўся ягоным першым пробашчам. У 1996 годзе адведала я касьцёл у Мар'янаве й тамтэйшага ксяндза. Ксёндз паказаў мне кроніку парахвіі, якую напісала Гэлена Трызна, дзе шмат мейсца адводзіцца Семашкевічу, як першаму пробашчу. Парабіла здымкі ўжо новага касьцёла, помніка па Яну Семашкевічу і дамоў, у якіх ён жыў. Напісала артыкул у беластоцкі "Gzasopis" (11/1996).

Неяк усё прайшло бяз рэха. І, як відаць далей, лічыцца, што Я. Семашкевіч "зьведаў незаконныя рэпрэсіі ў гады культу асобы". А тым часам ён усёй душой служыў людзям і касьцёлу на Сакольшчыне, не прызнаючыся да беларускасьці.

Памёр кс. Я. Семашкевіч 18 лютага 1956 года у Плябаніі, дзе жыў адзін.

**Гэлена ГЛАГОЎСКАЯ.**
("Рунь",
газета беларусаў Літвы).

## ЖЫЦЦЁВЫ І ТВОРЧЫ ШЛЯХ Хведара ІЛЬЛЯШЭВІЧА

● **Лідзія САВІК.**

# «Я ШЧАСЬЛІЎ ТАДЫ, КАЛІ ВОЛЯЙ НАПОЎНІЦЦА РОДНЫ НАШ КРАЙ...»

Сямейныя, настаўніцкія, шматлікія грамадскія абавязкі не перашкаджалі Хведару займацца літаратурнай дзейнасцю. У 30-я гады ён выдае два зборнікі вершаў: "Зорным шляхам" (1932) і "Захварбаваныя вершы" (1936), піша навуковую працу "Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі). Жыццё і літаратурная творчасць", звяртаецца да прозы, друкуе шмат апавяданняў.

Паэт так быў перакананы ў справядлівасці і неабходнасці барацьбы за нацыянальнае вызваленне, што без усялякіх сумненняў, прыспешваючы час, пісаў:

*Я не баюсь за Беларусь —*
*Яна, працоўная, прачнулась —*
*І песьні радасьці цьвітуць*
*Ад Адраджэньня шуму-гулу...*

Аднак з пачатку 30-х гадоў "аўтарытарны рэжым Пілсудскага і таталітарны сталінскай імперыі аказаліся тымі жорнамі, што сталі сістэматычна і планава перамолваць старажытную з паходжання, але толькі што адроджаную пасля двухвекавога заняпаду беларускую этнасупольнасць" (А. Ліс "Паэзія Хведара Ільляшэвіча"). І ўжо ў творах зборніка Х. Ільляшэвіча "Захварбаваныя вершы" гучаць зусім іншыя настроі, адпаведныя рэальнаму становішчу, у якім апынулася ўся Беларусь. Для гэтага перыяду характэрныя вершы: "Яшчэ аб восені", "Вы далёка, вясёлыя вуліцы", "Сінія дні", "Вось у ціхай задуме"", "Колерам ціхае роспачы" і іншыя.

*Колерам ціхае роспачы*
*Кветкі у садзе ўміраюць —*
*Там — за вакном яны,*
*просячы сонца і сьвету, —*
*пад ветрам*
*сумна у шыбы ўдараюць.*
*Чую я, чую, як жаласна*
*жаляцца кветкі прад сьмерцю.*
*Усё так цьвіло і змагалася —*
*ласкамі лета сагрэтае,*
*каб у бязсільлі памерці.*
*Дзе вы, надзеі вясеньнія,*
*дзе вы, вясны маёй кветкі?*
*Ветры навокал асеньнія,*
*сэрца бяз сьвету — прывету*
*сумам агорнута гэткім...*

Падобныя вершы прасякнуты сацыяльнымі матывамі, няма ў іх характэрнай для ранняга перыяду бадзёрай заклікальнасці, не адчуваецца больш памкнення пераймаць стыль рускіх сімвалістаў, імажыністаў, папулярнай у 20-я гады ясенііншчыны. Традыцыйна-паэтычная для беларускіх твораў манера выказвання была мацнейшай за розныя навуўвядзенні рэвалюцыйнай эпохі. Цяпер паэт бачыць Беларусь зусім у іншых фарбах і рэаліях:

*Па вёсках Беларусі*
*сялянскі едзе воз...*
*На ім труна ў дзярузе,*
*ў труне той — поўна сьлёз...*
*Ляжыць на веку ліра —*
*ў ёй струнаў цэлы рад —*
*Галосяць яны шчыра*
*на нашаніўскі лад.*
*Выходзяць людзі гурмам*
*і жаласна глядзяць —*
*А гэты воз хаўтурны*
*здалёк усё чуваць...*

("Па вёсках Беларусі").

Гэтым вершам, напісаным у 1935 годзе, адкрываўся перадваенны зборнік Х. Ільляшэвіча.

*Я ня знаю — чаму я павінен*
*Сэрца ў вершах паліць*
*без адчаю.*
*Адно цешыць мяне, што*
*ў Краіне*
*Я не першы у песьнях згараю...*

("Я ня знаю...").

Гэтымі радкамі Х. Ільляшэвіч далучае сябе, сваю паэтычную ліру да паэзіі слаўнай кагорты песняроў Беларусі, якія жылі яе лёсам, аплаквалі і апявалі свой народ, прарочылі светлую будучыню, як маглі, набліжалі і гінулі за яе.

У другой палове 30-х гадоў Х. Ільляшэвіч амаль цалкам пераходзіць на прозу. Ён піша шмат апавяданняў (пад псеўданімам М. Дальны), якія ўяўляюць сабой высокапатрыятычныя вершы ў прозе ("Песьні жыцьця", "На дарогу", "У вагоне", "Сыпаліся вішнёвыя краскі", "Балёнік", "Мастацтва", "Шопат зямлі"). Тут, як і ў вершах, аўтар імкнецца асэнсаваць падзеі тагачаснай рэчаіснасці. Героі апавяданняў звычайна маладыя людзі: студэнты, сяляне, рабочыя розных прафесій. Іх лёс цесна знітаваны з падзеямі эпохі. А падзеі набліжаліся трывожныя: пачыналася другая сусветная вайна, якая раскідвала людзей па ўсім свеце. Відаць, таму ў прозе Х. Ільляшэвіча найбольш яскрава праглядваюцца матывы дарогі, выгнанніцкіх шляхоў. І героі яго апавяданняў найчасцей выпадковыя спадарожнікі: адны з іх ідуць у бежанства, другія — з горада ў вёску, трэція — у выгнанне. Становішча іх няпэўнае, нестабільнае, яны не ведаюць, што іх чакае наперадзе, як павернецца іх лёс. Яны, як і сам аўтар, апынуліся на перакрыжаванні многіх невядомых дарог. Амаль у кожным апавяданні дамінуюць лірычныя адступленні патрыятычнага характару, выказаныя галоўным героем — выразнікам аўтарскіх ідэй: "*Гэй, хлопцы, брацці мае, зямля беларуская раскінулася ад Горадні да места Смаленска і ад Прыпяці аж на другі бок ракі Дзвіны перакінулася. Вось, выйдзі на якую-небудзь гару, над гай зялёны, ды азірніся на сьвет Божы! Так душа твая і зрадзее...*

*І на гэтай зямлі спрадвеку нашы дзяды, прадзеды жылі,.. няраз грэкамі, немцамі, рымлянамі траслі. А мы? Мы ня знаем, хто мы такія. Не марым аб залатым веку...*" (*апавяданне "Сон"*).

"*Хвалі калосьсяў то прыплываюць, то зноў адплываюць ад узмежжаў у небасхіл. І прыемны іх бунтарны прыбой. Ільсніць, пераліваецца шоўкам паветра ад сьпёкі. Набягае пявучы шум... Песьня падала птушкай над полем, білася крыльлямі, а пасьля зноў зьвінела. Як бы вось на пераменцы сабраліся дзяўчаткі-гімназісткі, запяялі — успомнілі пра вёску родную, жніво беларускае, жнеяк вясковых.*

*Узьвілася песьня высока-высока, абарвалася, упала — і загаласіла, надрываючыся жалем, заліваючыся сьлязьмі, стогнучы болем, калыхалася над збожжам і гублялася дзесь у бязмежжах нізінных...*"

Так абарвалася паэтычная песня Хведара Ільляшэвіча, якая ўзнёсла лунала над роднай зямлёй, якая зноў апынулася цяпер ужо пад нямецка-фашысцкай акупацыяй. Напярэдадні вайны пісьменнік паспеў перадаць рэдактару часопіса "Калосьсе" Янку Шутовічу першую частку аповесці "Васіль" (напісана ў 1938 годзе), якая так і не была апублікавана. І толькі ў 1997 годзе, калі архіў Я. Шутовіча быў перавезены ў Мінск (захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў фундаментальнай бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук), аповесць была надрукавана ў газеце "Голас Радзімы" (1997, № 18, 25 верасня, публікацыя Яніны Кісялёвай).

Да 1939 года Х. Ільляшэвіч працаваў у Віленскай беларускай гімназіі, а з пачаткам вайны пераехаў у Беласток (сям'я жыла ў Тапалянах). Х. Ільляшэвіч выношваў задуму хоць у нейкай ступені рэалізаваць беларускую нацыянальную ідэю ў барацьбе паміж магутнымі дыктатарскімі рэжымамі: "*Мы мусім паказаць усяму сьвету, што мы жывём, маем сілу ды змагаемся за сваю Бацькаўшчыну. Калі мы не будзем мець сваіх ідэалаў, сваёй мэты жыцьця і змаганьня, дык сільныя раздушаць нас, як таго чарвяка на дарозе, раздушыць нас гісторыя сваім колам. Каб гэтага не сталася, мы мусім даць адпор, паказаць сваю сілу. Тады будзе меней ахвяраў, бо цяпер нас душаць маскалі, немцы, палякі — страляюць па нас з-за вугла. Нам трэба быць арганізаванымі, бо толькі тады мы будзем мець сілу...*"

У гэтым напрамку ён і пачаў дзейнічаць. Узначаліў "Беларускае аб'яднанне ў Беластоку", створанае падчас вайны, быў адным з арганізатараў беларускага школьніцтва на Беласточчыне, стаў рэдактарам газеты "Новая дарога". Вершы Х. Ільляшэвіч амаль не пісаў, не меў часу з-за шматлікіх абавязкаў рэдактара, старшыні беларускага аб'яднання, за гаспадарчымі, сямейнымі справамі, дапамогай многім выгнанцам. На старонках "Новай дарогі" ўпершыню былі апублікаваны ўспаміны М. Сяднёва "Ахвяры бальшавізму", пра лёс рэпрэсіраваных беларускіх пісьменнікаў: С. Баранавых, М. Зарэцкага, Я. Пушчу, У. Хадыку, Т. Кляшторнага, А. Дудара...

У 1944-м, ведаючы, што яго чакае, Х. Ільляшэвіч выехаў на Захад, у Германію. Сям'я засталася ў Польшчы. Надзя Ільляшэвіч працавала настаўніцай у Тапалянах. Яе на першым часе часта выклікалі нкусаўцы, дапытваліся, дзе знаходзіцца муж (пазней яна з дзецьмі пераехала ў Шчэцін, дзе і цяпер жыве дачка Х. Ільляшэвіча — Марыля Марліч.


*Марыля МАРЛІЧ – дачка Хведара Ільляшэвіча.*

Працяг. Пачатак у № 23.

ДЗІЦЯЧАЯ ЧЫТАНКА

# КАРОЎКА, БЫЧОК І КОНІК

## СЕРЖЫКАВЫ АПАВЯДАННІ

Сержык цяпер жыве на Розачцы. Так у іхняй сям'і ласкава называюць вуліцу Розы Люксембург. Гэта вельмі цікавы куточак Мінска. Тут побач з высотнымі гмахамі і ціхія, нібы вясковыя вуліцы, і вулачкі з утульнымі па-гарадскому дворыкамі. У кожным з іх садок, свой паркан, свая брама... Вельмі цікава вандраваць па гэтых вулачках. Яны кароценькія і вузенькія. Амаль усе збягаюць у нізавіну. Калісь тут жыла, гаманіла рачулка. А дзе рачулка, там заўсёды лужок, лугавіна. Але цяпер тут замест жывой ручаінкі глыбокі яр. Вады ў ім вобмаль, толькі на дне блішчыць і то не ўсюды. А лугавінка нагадвае выган. Якраз на ім скубла траўку навязаная на вяроўцы кароўка. Трохі воддаль ад яе маладзенькі бычок таксама траўку скуб. Тут жа і буланы конік пасвіўся. Дзіва, дый годзе! Побач носяцца, снуюць тудысюды машыны. Вакол вірye гарадское жыццё. А тут проста вясковая ідылія! Конік, кароўка, бычок.

Дай, думаю, пацікаўлюся ў Сержыка, ці ведае ён, хто з іх кароўка, а хто бычок, і кажу яму:

— Вось на гэтым лужку, Сержык, пасвяцца кароўка, конік і бычок. Коніка ты ж пэўна ведаеш...

Сержык на знак згоды кіўнуў галавой і звёў свой погляд на буланага. А я працягваю далей:

— А скажы, Сержык, хто з гэтых дзвюх падобных жывёлак кароўка, а хто бычок?

Сержык разгубіўся і, як я і чакаў, усё пераблытаў: бычка назваў кароўкай, а кароўку — бычком. Я мусіў патлумачыць яму, што кароўка мае вымя, сосачкі такія, з якіх дояць малако. Ну а ў бычка шукай стручка.

Было трошкі ў гэтай нашай размове і смешнага, але нічога: вельмі хутка мы з Сержыкам вызначылі адрозныя прыкметы каровы і бычка. Але на гэтым наша цікавасць да кароўкі, бычка і коніка не скончылася. Неўзабаве прыйшоў сюды гаспадар і пачаў з імі ласкава размаўляць, вызваляць іх ад прывязі і гукаць дадому. Жывёлкі павесялелі і цугам, адзін за адным, пабрылі да свайго двара. Першай ішла кароўка, за ёю бычок. За бычком — сам гаспадар. Конік нейкі час яшчэ стаяў і глядзеў, нібы нечага чакаў. І вось якраз тут гаспадар ласкава гукнуў:

— Дадому, косю, дадому!

І конік радасна заржаў, гэтак жа радасна паскакаў услед. Радасць гэтая не пакідала яго, пакуль ён не дагнаў гаспадара і не далучыўся да роднага яму цуга.

Гэтак — адзін за адным — кароўка, бычок, гаспадар з ці то віламі, ці граблямі, а за ім — радасны конік — шчаслівa набліжаліся да свайго двара...

Той двор з расчыненай брамай нам быў добра відаць. У ім стаялі два легкавікі. Гэта вельмі здзівіла Сержыка:

— Цікава! — сказаў ён. — У гэтага чалавека дзве машыны, і яшчэ каня трымае. Навошта яму той конь і куды ён на ім ездзіць?

— Мо нікуды і не ездзіць, — адказаў я. — Можа ён жыць без яго не можа. Да ўсяго ў яго, ды і ў суседзяў, ёсць агародзікі. То ён на гэтым коніку абрабляе агароды.

На гэтым з Сержыкам пагадзіліся, што машына каня не заменіць, гэтак жа, як і конь — машыну. Нас цяпер вельмі ўразіла, як кароўка, бычок і конік слухаліся з аднаго слова свайго гаспадара. А да машыны ласкава не прамовіш — не пачуе і не адгукнецца...

Запісаў
**Уладзімір СОДАЛЬ.**

ПРЭМ'ЕРА



### ЮНАЯ АРТЫСТКА

Каля 35 хлопцаў і дзяўчат занята ў новай пастаноўцы "Жыццё ёсць жыццё", якую падрыхтаваў гомельскі дзіцячы тэатр "Сінтэз" пад кіраўніцтвам рэжысёра Валерыя Курдзюмава. У масавым відовішчы, якое паказваюць юныя артысты, ім даводзіцца спяваць, танцаваць, выступаць з пантамімай. Юлія АНТОНАВА (на здымку ў цэнтры) валодае ўсімі гэтымі якасцямі, бо з дванаццаці гадоў, што існуе тэатр, сем яна займаецца ў ім.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

ВІЦЕБСКІ ЗААПАРК



**Адкрыццё новага сезона ў Віцебскім заапарку супала са з'яўленнем у ім новых жыхароў. Тут знайшлі прытулак маленькае паласатае парася, малпачкі і шчаняты каўказскай аўчаркі.**

**НА ЗДЫМКАХ: намеснік дырэктара заапарка Павел КАЛПАШЧЫКАЎ са шчанятамі каўказскай аўчаркі; шасцікласнік Коля ГАШАЎ з маленькім дзікім кабанчыкам; малпачкі.**

**БелТА.**





# *УРОКІ ДЗЕДА-ЎСЁВЕДА*

***Прывітанне! Я вельмі рады зноў сустрэцца з вамі, мае дарагія сябры!***

## Урок № 3.

### Поры года:
### лета

Звонкае ЛЕТА
Зноў ідзе па духмянай зямлі.
І паважна збіраюць з кветак
Залатую даніну чмялі...

Чэрвень — чырвань,
Расквітнеўся чабарок.
Выйшаў Янка на палянку
Збіраць ягады ў збанок.
Чэрвень — чырвань,
Сонца свеціць.
ЧЭРВЕНЬ — першы летні
месяц.

За ім ЛІПЕНЬ хутка йдзе,
Косіць і жне,
Доўга спаць не дае.

Шчодра ЖНІВЕНЬ замыкае
лета:
Завяршыў мурожныя стагі,
Песнямі птушынымі сагрэты
Водзіць развітальныя кругі.

**А ВОСЬ ЯКІЯ СЛОВЫ ПРЫНЕСЛА ЛЕЦЕЙКА:**

**Чэ́рвень** — июнь.
**Лі́пень** — июль.
**Жні́вень** — август.
**Ле́тні** — летний.
**Уле́тку** — летом.
**Гарачыня́** — жара.
**Спёка, спяко́та** — зной.
**Навальні́ца** — гроза.
**Рамо́нак** — ромашка.
**Звано́чак** — колокольчик.
**Вало́шка** — василёк.
**Казяле́ц** — лютик.
**Піво́ня** — пион.
**Вяргі́ня** — георгин.
**Насту́рка** — настурция.
**Наго́ткі** — ноготки.
**Аксамі́ткі** — бархатцы.
**Духмя́ны** — душистый.
**Чмель** — шмель.
**Матылёк, маты́ль** — бабочка.
**Чарні́цы** — черника.
**Брусні́цы** — брусника.
**Буякі́, дурні́цы** — голубика.
**Суні́цы** — земляника.
**Касцяні́цы** — костяника.
**Малі́ны** — малина.
**Ажы́ны** — ежевика.
**Журaві́ны** — клюква.

Падкрэсліце словы, з якімі вы сустрэліся ўпершыню, і складзіце з імі сказы або словазлучэнні. Запішыце.

**ЦЯПЕР АДГАДАЙЦЕ ЗАГАДКІ, ЗАПОМНІЦЕ І ЗАГАДАЙЦЕ ІХ СВАІМ ЗНАЁМЫМ**

Ішла панна ўначы, згубіла ключы, месяц бачыў, а сонца падняло.
(Раса.)

Зароў вол на сто гор, на сто печак, на сто рэчак.
(Гром.)

Дзяўчынка кветку ўзяць хацела, а кветка пырх — і паляцела. Завецца як жа кветка тая, што крыльцы мае і лятае?
(Матыль.)

Наведваю, дзеткі, я розныя кветкі, збіраю нектар.
Найлепшыя лекі народнай аптэкі — салодкі мой дар.
(Пчала.)

З-пад мохавай сховы павысоўвалі хлопцы галовы.
Хто ні ідзе — іх вітае, з сабой забірае.
(Грыбы.)

Праз усю зямлю прайшоў. шапку чорную знайшоў,
Стаў ля сцежачкі якраз, выстаўляе напаказ.
Ах, дзівак, няхай бы лез у гушчар пад лапкі:
Сёння прыйдуць дзеці ў лес па такія шапкі.
(Баравік.)

**НЕКАТОРЫЯ ЛЕТНІЯ ПРЫКМЕТЫ, ПРЫМАЎКІ**

- Над вадою белаватыя воблакі, якія хутка знікаюць пры ўзыходзе сонца, — да яснага надвор'я.
- Вароны ў небе гуляюць — да спёкі.
- Начная раса ранкам доўга не высыхае — перад навальніцаю.
- Зоркі ноччу як у тумане — перад дажджом.
- Хто ў ліпені ў полі пацее, таго ўзімку і печка пагрэе.
- Ліпень што спаліць агнямі, тое залье слязамі.
- Хто ў жніўні гуляе, той зімой галадае.

**ПАСЛУХАЙЦЕ СКОРАГАВОРКІ АД МАЙГО ЎНУКА РЫГОРКІ. ЁН ІХ УЖО ХУТКА ВЫМАЎЛЯЕ, ПАСПРАБУЙЦЕ І ВЫ**

- А траву пакашу — дам вам сена па кашу.
- Добры ў рэчцы ранкам клёў, калі спрытны рыбалоў.
- Толькі б раптам не сурочыць — у траве стракач стракоча.
- Каласы каласавалі, каласавалі, выкаласаваліся.

На гэтым я развітваюся з вамі. Да пабачэння!

Падрыхтавала
**Святлана КАРПУЧОК.**

«Голас Радзімы»

**Галоўны рэдактар
Наталля САЛУК**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
**Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".**

РЭДАКЦЫЯ:
Намеснік галоўнага рэдактара **Галіна УЛІЦЁНАК.**
Адказны сакратар **Таццяна КУВАРЫНА.**
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА.**
Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК.**
Аглядальнікі **Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ, Таццяна ХРАПІНА.**
Спецыяльны карэспандэнт **Нэлі ПРЫВАЛАВА.**
Рэдактар-перакладчык **Святлана КАРПУЧОК.**
Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА.**
Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ.**

**НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.**

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 828 экз.
Зак. 1484.
Падпісана да друку 12.6.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).